Каско А. “Нічога больш”. Вершы і пераклады

Чарговы зборнік вядомага паэта, лаўрэата літаратурных прэмій Алеся Каско выходзіць пасля амаль дзесяцігадовага перапынку. На вершах гэтага перыяду ляжыць адбітак творчага і пэўнага жыццёвага падсумавання. Ім, як і ранейшым творам самабытнага аўтара, уласцівы глыбіня і напружанасць лірычных перажыванняў, разнастайнасць і дасканаласць формы. Арганічна ў агульны змест і настрой кніжкі ўплятаюцца новыя пераклады паэта з шэрагу славянскіх, а таксама з нямецкай моў.

* * *

Сваю – даснаваў я да спадчыннай долі,
а потым з крывёю яе адрываў
ад сэрца радкамі –
нічога не выказаў болей.
Я з кожнай магілай сябе крыжаваў,
звыкаўся з адвечнай людскою юдоллю
і жаль свой агучваў –
нічога не выказаў болей.
Ставала мне радасці: ветру і полю,
птушкам і вёснам не раз тураваў
сваім падгалоскам –
нічога не выказаў болей.
Я ў радасці плакаў, у болю трываў
і гневу свайго не трымаў у падполлі,
сябе я выказваў –
нічога не выказаў болей.
І музу быць лепшай, чым ёсць, не няволіў,
і сам ёй у рабства сябе не даваў.
Ці стаў я паэтам?
Нічога не выказаў болей,
чым тое, што ў лесе сваім прачытаў.

* * *

Што трэба вяртанцу? Палоска
былой вечаровай зары
ды ціхая ў прыцемках вёска,
ды шолахі ў родным двары.

Нікуды цяпер не спазніцца,
дык стой і ўбірай гэты свет,
які, хай ты быў чужаніца,
не страціў ранейшых прыкмет.

Нябёсы ўсё тыя ж, і зоркі,
і вецер, і жыта: і нат
у свет гэты выпусціў зёлкі
яму не ўласцівы асфальт.

Рака абмялела, ды бераг
збярог чараты і груды,
дзе ты не ўсвядомлена бегаў
і збег — не ўсвядоміў, куды.

Не ўсіх дагукаешся блізкіх,
спаткаеш далёкіх не ўсіх,
аднак жа ўзгадаеш да рыскі,
прысніш іх, нібы ўваскрасіш.

Свет родны — і літасць, і лучнасць:
бач, з позняй часіны, вярсты
вярнуў, даў адчуць неўміручасць,
якой калісь выракся ты.

* * *

Травою быў - а нехта ў небе сінім
сказаў: адчуй свой боль і стань мне сынам.
І я прайшоў шлях веры і зняверы,
парою грукаўся ў чужыя дзверы,
любіў, кахаў і зведаў смак самоты…
Але - што потым?
Я не прыму фальшывай пазалоты
на сэрцы і траве, што мне раднёю.
Мне ўсё радзей лавіць прамень над ёю,
часцей – сачыць за знічкавым палётам.
Але – што потым?
Былінку слова, каліва пяшчоты
пакіну вам, і гэта дасць мне сілы
змяёй не віцца ў кроку ад магілы
і ўдзячнасць прашаптаць нямоглым ротам.
Але – што потым?
Травінку пацалую без употы,
не ў гнеў Таму, чый кліч у небе сінім
пачуў аднойчы, каб назвацца сынам.
І страціць сэнс адвечная турбота –
а потым што?...
Бясспрэчны і адзіны
адказ ёсць там, адкуль няма звароту.

**НЕДАЖЫН**

Як бы доўга ні жыць – не дажыць
да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі
грыўка спелых жытоў – недажын,
што асыплецца ветрам, прыб’ецца  дажджамі.

От бы ўсё – ад зярнят да расы –
зберагчы і напоўніцу  ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць
даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца

Зручны быў бы няношаны ўбор,
і пачулі б анёлы, схілёныя нізка,
што гучыць літасціва не хор
адпявальны – то маці пяе над калыскай.

О, каб гэтак! Але да мяжы
часу меней нашмат, чым да зжатага жыта.
Можна загадзя ўпасці, не жыць…
Ды з таго і жывем, што жывем недажынам

## СПАДЧЫННЫ САД

Падаюць яблыкі. Яблыкапад:
сіла зямлі пакідае мой сад.
Скочваннем звілістым ці стрымгалоў
яблык за яблыкам – з голля далоў.
Горкі, падгнілы або сакаўны –
паданак падае ў пыл, палыны…

Атарапеласцю – смутак двара:
яблыкам падаць яшчэ не пара;
ім налівацца былоб самы раз –
не ля варот яшчэ яблычны спас.
Гнуцца галіны ў суседніх садах,
моцны, крамяны, мядовы там пах,
рала з антонамі цяжкімі прут
гордым атлантам трымае. А тут
падаюць яблыкі. Яблыкапад
губіць адзіны радзінны мой сад.

Вось-вось пачне шорстка падаць лісцё,
ліст абляціць – і застыне жыццё
не на зіму, ды і не на гады:
саду майму не вярнуцца сюды,
як не вярнуліся продкі мае…
Сад мой бязлюдны, час наш настае.

Голля, бы рук, не заломвае сад,
свеціць з паўзмроку ягоны пагляд
зрэнкамі яблык з-пад веяў-лісця:
жаль у ім ёсць, ды няма страхацця.
Зведаў пад бурамі ён, што і ў дрэў –
час толькі свой, хоць знянацку заспеў.
Дык і сыходзіць (і я разам з ім)
яблык за яблыкам – крокам глухім.
Ціхі, без ляманту яблыкапад…
Дзякуй за мудрасць, мой спадчынны сад.

**ЯБЛЫНЯ БЕЛАРУСКАЯ**

Не ўсялякую расліну
народзіць
усялякая зямля

З Вергілія

Сокі яе –
з утравелай, дзірванай глебы
ды з ацяжэлага хмарнага неба,
квецень – ад сонца ў стронцыі,
завязь – у бясконцых прымаразках,
што навявае Усход.

Яе недаспелыя яблыкі
дзяўбуць паўгалодныя птушкі,
збіваюць паўдомныя людзі –
з таго гэтак многа
пад ёю заўчасных паданкаў
і парасткаў,
што ў дрэвы не пераходзяць.

Ці станеш, яблыня,
некалі дужаю і прываблівай,
гожаю і непадатлівай
ні веснім, ні восеньскім сцюжам?

Маўклівая, гойдае
шурпатым пакручаным голлем
і свой яблык апошні,
і ў ім чарвяка,
што яблык той дагрызае.

## СПАТКАННЕ З ВАНДРОЎНІКАМІ

— Кінь манету на шчасце.
— У краі забраным манетаў няма,
апрача трыццаці срэбных.
— Паднясі падкову на шчасце.
— Збіў падковы, згубіў белы конь
пад вершнікам збройным.
— Руку дай на шчасце.
— Рука амярцвела: сяброў усё менш,
з імі на розных мы гутарым мовах.
— Куды ж, чалавеча, я трапіў?
— Не ведаю, Божухна, мо
Ты зноў у пустыні...

* * *

За паўвеку ўжо далёка чалавеку,
а да веку ці дайсці яму?-
ўваходзіць у калеку, недарэку…
Дай жа чалавека абдыму.

Мне самому меней не намнога,
і міжволі хочацца гадаць:
знойдзецца каму ў канцы дарогі
не руку мне, дык хоць кій падаць?

Там, за рысай, і вальней і годней,
свеціць там нябеснае крыло.
Першасней, аднак, і неабходней,
каб цяпло зямное абняло.

А пра большае –
дык толькі верыць, марыць,
трэба, вось, адолець жыццявір:
двое цягнемся праз вуліцу –
ён, старац,
побач я, пакуль што павадыр.

## БАЛАДА БЕРАГА

Бераг мой у смузе… Хоць аднойчы б даплыць,
каб здрадліўцаў не мець, каб здрадліўцам не быць.
Быць самім па сабе, быць сабою самім,
нежаданым для ўсіх, непатрэбным зусім.

Там, у краі чужым, там, на краі зямлі,
толькі птушкі жывуць, матылі ды чмялі.
Там, на сцежках глухіх, толькі звера сляды,
там будуюць мурашкі свае гарады.

І рашаюся я — і бягу праз траву,
і кідаюся ў хвалі — плыву і плыву
дзень і ноч, ноч і дзень, знемагаю — але
адыходзіць той бераг далей і далей.

Выбіваюся з сіл і на волю ракі
аддаюся… “Слімак, ты не першы такі!”
Я на беразе гэтым; ляжу на пяску
і цалую я ногі свайму рыбаку.

* * *

Чалавек дасюль яшчэ ў зародку,
ва ўлонні матухны-прыроды,
у пукатым чэраве Зямлі;
ён толькі-толькі знакі падае –
памкненнем імпульсіўным цела,
успышкамі пачуццяў сумятлівых
ды роспачных здагадак
пра акаліпсісы ў свеце і ў сабе.

Рэнтгенна – гэта мятлік,
што бязгучна б’ецца ў сценкі
замкнёнае няўмольнае прасторы;
калі ж і прарыывае абалонку –
“Чалавек сягнуў у Космас!”
“Чалавек ступіў на Месяц!” –
па неадцятай пупавіне
вяртаецца пакорліва назад.

Але зародак выспець мусіць:
у ім глыбінная ёсць памяць
пра шлях крыжовы да Любові,
і ў ім сусветная ёсць воля
пад сумненне ставіць непаўторнасць,
з якою за тысячагоддзі
народжаны Зямлёю векавечнай
адзін-адзіны Сын.

**НЕСУПЫННАСЦЬ**

Яшчэ толькі ўбіраемся ў годнасць і сілу,
яшчэ толькі разгон набіраць пачынаем,
а ўжо ўсё часцей спахапляемся і змяняем
апантанасць на одум, бег – на хаду
і, збянтэжаныя далёкасцю небасхілу,
усё больш разумеем сэнс марафону:
дзе хто ўпаў – там і фініш ягоны,
з чым ніколі, аднак, не пагодзіцца дух.

Дух ёсць рух; ён няспынны – да нас і за намі!
Яшчэ вецер хапаем дрыготка губамі,
яшчэ сонцы вачэй не ўскаціліся ўгору,
а ўжо заўважаем нязгоду сваю, непакору:
вызваляюцца душы – спяшаюцца да
ці зараз адкрытай, ці ўспомненай мэты, -
па той бок далягляду; і нам не шкада,
што не душы, а целы аплачуць па гэты..

**КАРАБЕЛЬ**

Вецер у спіну не вецер.
Хваля не хваля,
што кошкаю трэцца аб бераг.
Дый бераг не бераг,
калі ён без стромы...

Зведаў я вецер сустрэчны,
раз'юшанасць хвалі,
паўставаў небасхілам мне бераг,
куды не даплыў я,
куды не даплыць ніколі.

Суцешна ў стыхіі!
Мне радасна ведаць:
яна не сцішэе, не скончыцца,
не знікне разам са мною –
па-за маёю вечнасцю.

Іду на бяздоннае дно
і расстайна ківаю мачтаю
таму караблю ацалеламу,
які, аб мой борт ледзь паранены,
спяшаецца стлець на якары.

* * *.

Чым менш застаецца да роднага дому,
тым больш краявід адчужае знаёмы.
Яго пазнаеш  па купчастых аблоках,
высокіх,  як памяць, і чыстых, як вока.
Яны – міражы, што паўсталі з маленства,
а ўнізе – а ўнізе ўсё менш падабенства
з абрысамі мяккіх аблокаў-лятункаў:
як шмат тут груваcткіх, няўклюдных малюнкаў.

Ці гэта разрыў між гадамі вялізны,
ці проста гляджу праз халодную прызму?
Ва ўзгорка бязлесага конусны выгляд,
канавы-трапецыі сціснулі выган,
дарога запала пад пліты-квадраты,
без колішніх дрэў вуглаватыя хаты
панура цікуюць кубічны аўтобус...
А ў школьным акне – яшчэ круглы ўсё глобус.

## ЗЯЛЁНЫ КОНІК МАЛЕНСТВА

Груд.
Скрыпка коніка.
Глыток
тугі мінулай, без найменння…

І — дождж. Не дождж, нябёс адток,
патоп для траў і для карэння
дубоў. На вейцы — гаплічок
зеленаватага стварэння.
Яшчэ шарготкі ён, жывы.
Яго затульваю ў далонях,
сам ледзь вышэйшы ад травы,
трысцінка ў струмянях шалёных.
Мне страшна хваляў, што бурляць,
растуць з-пад берага ў залеве.
Патоп і ёсць. Адно б схаваць
мне скрыпача ў дуплістым дрэве.
З ім назаўжды мы едначы,
а дуб стары — нам човен Ноеў,
і я плыву, каб зберагчы
яго, стварэнне ледзь жывое!..

Груд.
Санцапёк.
Я ўсё прымроіў,
на скрыпцы сплюшчанай сплючы.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Чым вышэй падымаюся –
за паверхам паверх, -
тым глыбей апускаюся
ў спраты егіпецкай піраміды,
дзе стаяць саркафагамі кнігі
з муміямі першадрукароў і паэтаў.

Саркафагі – недатыкальныя
(ці амаль не) і таму не трухлеюць.
З іх, дамавінаў парадных,
здзьмухваюць пыл маладзенькія жрыцы,
безуважныя да наведнікаў:
вобмаль тых, хто запыніцца і папросіць
вечка падняць для агляду.

Я з “тых”, і я ў полі зроку:
цікаўныя дзівяцца мне, нібыта
я мумія, што ажыла ўвачавідкі,
спалавелая без доступу свежага подыху,
з тленам роднага слова на вуснах.
Са мною спрабуюць завесці гаворку,
але спахапляюцца бездапаможна:
у іх брак досведу ў дагістарычнай мове.

І толькі адзін егіпцянін
як свой пачуваецца – трэба яму
папрактыкавацца ў маўленні, каб зразумець
наш вопыт айчынны: дзеля чаго
ствараем маўклівыя піраміды і саркафагі?
У яго ёсць задума як навукоўца –
агучыць муміі рамзэсаў і тутанхамонаў;
яму – у адрозненне! – мала надпісаў на дамавінах,
яму – у адрозненне! – трэба родная мова жывая.

## З кутка Нямеччыны

Тут, у Нямеччыне,
у цесным кутку Гельмштэта,
я дыхаў свабодаю;
бяру я адсюль па жменьцы
паветра і сонечных промняў,
усмешак і слоў —
каб там, куды вяртаюся,
відушчай зірнулася
і сказалася годна: годзе —
годзе жыць з перакручаным горлам
там, на радзіме,
адкуль у вандроўку не ўзяў
свабоды ні жменькі.

## Усходнія суседзі

**1**

Яны выйшлі з варагаў,
перамяшаліся з чынгісханамі,
спарадзілі жахлівых, ермакоў, пугачовых.
У ботах пятроўскіх,
папыхваючы каўказскаю піпкаю,
прайшлі паўшара Зямнога.
Што край мой на іхняй карце?
Абшару малюсенькі ўскраек.
Яшчэ не ўтаптаны ў дарогу хлеба акраец.

**2**

Далятаюць весткі —
зноў яны ў паходзе,
спадкаемцы неўтаймоўных ваяроў, —
гэтак часта,
што бянтэжымся: на ўсходзе
ці зара,
ці зноўку зарыва і кроў?

**Не там**

Ах, з Крыма вярнуць Максіма?
Баімся, што пустата
магільна жахне: зусім не
яго
тлен вякуе там.

Ля Хведкавіч, прыдарожна,
граніт з Васілём паўстаў.
Нясвечаны,
бо — няможна:
ёсць чуткі — паэт не там.

Не “там” і Паўлюк з Крашына,
дый верш — не з яго ліста…
… Прытулкі сыноў Айчыны
няведамы,
як Хрыста.

## НАСАЛОДА АД ПАЛЯВАННЯ

Стары паляўнічы ні разу
не ступіў у гушчар запаведніка,
акрэсленага прасекамі,
назіральнымі вышкамі
і дзе-нідзе дротам.
Па той бок палявалі хаўруснікі —
з ліцэнзіямі і без іх,
а ён заставаўся на варце па гэты.
Слых яго лашчылі і вярэдзілі
лямант сабак,
і людское галёканне,
і трэск галля ад звярынага бегу.
О, ён меў слых,
ён быў зноў малады!..
Часам звер, наляканы адтуль,
слепа шукаў паратунку
за адведзенай зонай —
за непарушнай мяжой запаведніка.
І тады ён страляў —
спакойна і трапна,
бы калісь, як быў малады…
За ўцёкі.

**Сакрэт пастаянства**

У цішу, дзе замоўк і кашаль,
трыбун кідаў за сказам сказ:
— Стабільнасць у краіне нашай,
бы ў гэтай зале, сярод вас.

Раптоўна ўскінуўся, як вецер,
дзяцюк са шрамам на шчацэ:
— З турмы нядаўна я; там, верце,
стабільнасць большая яшчэ!

**Сухмень**

Стаяць ля транзістара, млеюць касцы.
Пра добрыя змены ім кажа сталіца
ды зноў пра надвор"е  вястуе ў канцы:
не сёння, дык заўтра пальe навальніца.

А травы зрыжэлі; бы порах —аўсы.
І сплюнуў брыгадны, і зморшчыў міжброўе:
— Урад калі хлусіць, дык хлусіць ва ўсім,
няхай бы хоць праўду сказаў пра надвор"е.

## АСАЦЫЯЦЫЯ

Уздоўж вуліцы Леніна - плот,
дзе-нідзе над варотамі дрот,
ля падваротні - ваўчысты сабака,
на скрыжаванні - плячысты “ваяка”
ў партупеі, з дубінкай і рацыяй.
На вуліцы вусцішна, бы ў канцэнтрацыі, -
так апынаешся сёння міжволі
ў няволі
гэтакай асацыяцыі.

* * *

Свісне рак – і ўсё. І ўсё збудзецца!
Хто адвеку спаў, той абудзіцца,
блудны сын  дамоў тут жа вернецца,
у вачах сляпцоў змрок развеецца.
Будзе так: бядняк есць папоўніцы,
вольным – воля  свет, здольным – творыцца.
Дым з фабрычных труб пахне свежасцю,
кожны ў полі дуб – роўны з вежаю.
Хто піў моцнае – п'е маркоўнае,
і паўсюль усе – памяркоўныя.
Аж круцель-хіжак стане правільным,
і памірацца Каін з Авелем…
— Дзе ж той рак, аднак? Ці не свішчацца?
— А табе, лайдак, лёгка пішацца?..

## АПАТЫЯ

Сягне радок у сон твой душны
і змусіць сэрца затрымцець,
і ўзбудзіць кроў, і горла здушыць,
але — не дужа, не насмерць.

Для заваконня ён — не ў знаку:
там час глухі, ці плач, ці спеў…
З душы сарвеш яго, вужаку,
каб без надзеі не шчымеў.

Не ўважыш, што ён схоў, ахова,
што, бы акраец жабраку,
шанц акрыяць даруе мова
ў табой адпрэчаным радку.

Ён скурчыцца, спадзе бязгучна
па той бок чыстага ліста —
тады спаўе і стане мучыць
паўзучым гадам пустата.

Дарма пачнеш вышукваць словы,
душу і розум тармасіць:
верш незалежны, выпадковы
сябе не дасць уваскрасіць.

**НІВА**

Дол спапялёны, і ў чэзлай траве
конік зялёны і той не жыве.
Неба пустое – без жаўрукоў,
жыта сухое – без васількоў.
Рэдкі вандроўнік душой прыпадзе:
не, тут зямля не пяе, не гудзе.
Песні не ўродзяць. То град, то сухмень.
Ценю збаіцца – чужы раптам цень?
Роспачна выгукне ў поле маўклівае:
“Ты хіба сёння мне творчаю нівай?”
Скрушна спахопіцца: “Што ж я? Дарма.
Іншае нівы ў радзімы няма.
Што сёння ёсць – дык надзея на рунь.
Мёртвае поле нанова ўзару,
з ліраю выйду, нібыта з сяўнёй:
ёсць яшчэ зерне не мёртвае ў ёй...”

* * *

Сеяць мне сёння зярняты на камені,
трэба іх шмат; не вазьму ў графаманіі,
вышлюць па жменьцы, сумніву няма ў мяне,
з Польшчы – Някляеў, Разанаў – з Германіі.

**ПАМКНЕННЕ**

Яшчэ што вартага ўва мне
і што жывога засталося,
змяшаць з вінам на палыне
і выплюхнуць у выскал лёсу.

І кінуць выклік, прасвятлець,
адчуць, што зноўку стаў сабою…
О, каб пасля і сілу мець
не адцурацца ад двубою!

## ЧОВЕН

Я човен,
мяне прыбіла да берага,
і маё дно — на дне.
Чакаю, нарэшце забегаюць
зацікаўленыя ўва мне.
Чую:
— Счарнеў, дык што з яго?
— Чаму ж, яшчэ пажыве:
здаць рыбарам.
— І ўзяць нядорага?
Цьфу тваёй галаве...
Чую, што стаць магу полымем,
попелам,
высеяным на пясок,
у лепшым разе — латком на поплаве,
які ў гэты год засох.
Гамоняць, гадаюць-думаюць
аратыя і пастухі:
— З'явіўся тут на бяду мо ён?
Мо гэта знак ліхі?
Узяць — ды ў возера Чорнае!
— Ат, няхай тут ліпіць...
І ніхто не ўважае, што — човен я,
што маё прызначэнне —
плыць.

## ГЛЫБІНЯ

Зазірну ў калодзеж –
бяздонне
за кругамі, аброслымі мохам,
за лебядою,
за чорнай вадою.
Ускіну вочы
на вядро сухое
ў дзюбе драўлянага жураўля –
бачу дно:
не апусціцца больш яно.

## СОСНЫ НА РАЗБУРАНЫХ МОГЛІЦАХ

Ад старадрэвін – хлуд і пні,
сляды капцоў – між новых соснаў,
чые галіны мкнуць высозна,
чые ў прадонні карані.

Пад іх карою час, калі
чыніўся гвалт; вяршынны пошум
штодня вядзе шчымлівы пошук
тых душ, што неба абжылі.

З руінаў, з ямінаў, з вякоў
паўсталі дрэвы строма, дужа,
нясцерпна ім: тут стогнуць душы
глумліўцаў і рабаўнікоў.

І прэч ад іх, ад гнюсных сіл,
страляюць кроны так высока,
а карані – да чыстых сокаў,
глыбей, чым дол былых магіл.

## РАЎНАВАГА

1

Скінуў белы лебедзь
мне белае пяро,
скінуў белы бусел
мне белае пяро,
скінуў белы голуб
мне белае пяро...
Скінуў чорны воран
мне чорнае пяро –
аж тады ўзляцеў я.

2

Маю ўсяго па долі:
долю радасці –
долю болю,
долю веры –
долю зняверанасці,
долю памяці –
долю забыцця...
Хто мне скажа,
што – абяздолены?

3

Пакідаў тлум горада
ценем панурым.
Іду з улоння прыроды –
намармытваю песню:
ці з таго,
што спазнаўся з воляю,
ці з таго,
што да людзей вяртаюся...

**КРАЯВІД**

Чужы для бязлюднага краявіду,
пазіраю на попельнае поле,
дзе вугольчыкамі
тлеюць забытыя бульбінкі,
дзе стырчакі сланечніку
спрабуюць падвысіць смугу,
нібы ўсё яшчэ шукаюць
сонца… Яно
ўжо даўно пад імі –
зжоўклымі скарынкамі гарбузоў,
лісцем голых кустоў і яблыняў.
Чужы для бязлюднага краявіду,
заўважаю, як многа
пакінутых тут “крыжоў” –
маркотных агародных пудзілаў, -
і нясмела, бы ўлетку,
над імі кружляюць вароны.
Хоць бяры ды і сам
шырока растапырвай рукі –
дапасоўвайся
да бязлюднага краявіду.

**САД**

Сад восеньскі, ціхі –
з водарам празрыстых антонавак,
груш, вінаграду
(на белых сурвэтках),
з цяплінкамі арабінавых ягад
і кляновага лісця
(сям-там рассыпанага незнарок),
з цэлым лугам някідкіх кветак,
сабраных у вазы, -
так скупа , так мала падобны
да сапраўднага саду –
саду без згустку лекавых пахаў
і меланхалічных настрояў,
без спакусы ўтрапёнага сузірання,
што раптам канчаецца зрывам
і недарэчнай высноваю:
у садзе: амаль батанічным,
не стае толькі кветак вянковых…
у сценах бальнічных.

* * *

Самота – на вяршыні дзён самота,
дагэтуль імітацыя была:
ты цемрай заварожваўся, а ўпотай
душа шчымела ў шчылінцы святла.

Ты неўсвядомлена і летуценна
быў схільны плакаць, вершамі балець,
ды нават боль быў з роснага мігцення,
і толькі мімалётным ценем – смерць...

З нязведаных, адчужаных вытокаў
прыйшла самота існаю, такой,
нібы ступіў ты ў цесны дом без вокнаў
і дзверы зачынілі за табой.

Адно, што ёсць, - атвор у безнадзейнасць,
у глыбіню сябе, да той мяжы,
калі адчай у найвышэйшай дзеі:
жахацца скону – і не прагнуць жыць.

І так далёка ўсе, каму б ахвотна
на споведзі душа распавяла
пра гэтую – праўдзівую – самоту,
што калісь імітацыяй была!

## БЯЗДОМНІК

Нічыйны кут: тынкоўка скрозь шпалеры.
Ці ўпершыню – нанова абжываць
чужую выспу і ў бязлюддзі верыць:
не доўга будзе восень дажджаваць.

Аціхне дождж і злёгку падмарозіць –
бадзяйся ад двара і да двара,
няхай запечны злыдзень пазайздросціць,
што не бывае ліха без дабра.

Стол з жоўтым пылам, з цэзіем вазоны
памые – і на жытніх сухарах,
на яблыках з неаскупелай зоны
вячэру справіць па гаспадарах.

Яму абрыдлі цесныя падвалы,
і тлумныя пад'езды, і вакзал.
Сухая столь тут, і памост трывалы,
і німбы цепляцца на абразах.

Няўзнак яму, навошта адсяленцы
з сабою не забралі ўсіх святых,
з чаго так вецер грукаецца ў сенцы
ды сыпле рэшткі кропляў ледзяных.

Сюды вясною завітаюць госці:
ці час вяртаць гаспадароў, ці не?
З дзвярнога цемрыва, з-пад воўчай поўсці
на іх бяздомнік жарсцева зірне.

## ПІЛІПАЎСКАЯ НОЧ

Па дарозе да шашы
аніводнае душы.
Не адну прайдзі вярсту,
знойдзеш толькі пустату.

Знойдзеш толькі пыл, пясок
ды бяздушны воўчы змрок.

Вычысць памяць дабяла,
а ўсумнішся, ці была
хоць калісьці,
хоць спярша
і ў тваёй душы душа.

Дзесь у небе ёсць адна,
ды і тая не відна
ў цемры, бездані, цішы…

Спынішся наўскрай шашы.
“Хто там?” –
выгукнеш у змрок.
“Гэта я,” – адкажа воўк.

**ПАМЯЦЬ**

Святлее снег, цямнее неба,
прамень і цень на гарызонце
змыкаюцца. Садзіцца сонца.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Зарука  згадак – луста хлеба,
маўклівы стол, цярплівы чайнік.
Немітуслівa. Незвычайна.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Нібы няспешлівы малебен:
гадзіннік счытвае ўспаміны
пра нашы з сябрам пуцявіны.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Ён зрокся шляху… Як сагрэў бы
сяброў непамінальны вечар,
дзе ўсё было б, што трэба вечна,
а сёння – на часіну трэба!

## ВАНДРОЎНІК

*Памяці Міколы Купрэева*

Кавеньку-павадыра
паставіць у кут з абуткам.
Запыленым незабудкам
дасць свежай вады з вядра.

Сарваныя ў добры час,
яны ажывуць, як просінь.
“Што ў свеце, кажы, - папросім, -
і што ты згубіў у нас? ”

“Што ў свеце? – ён скажа ў такт. –
Прастора, краса, дарога…”
Бязмэтных цяпер ці многа?
Мы скемім: тут штось не так.

Узятыя на іспыт
няпэўным жыццём замкнёным,
зняверымся ў незнаёмым,
прынеслым палёў блакіт.

Які сёння хцівы свет,
якія ў ім ходзяць чуткі!..
Чысцюткія незабудкі
пакіне, між тым, паэт.

## САРАКАВІНЫ

Так зелена, весне,
што вішня сама
ступіла да весніц.
А мамы – няма.

У хаце прыбрана,
у хаце гурма:
людзей, нібы ў храме,
а мамы – няма.

Перад абразамі
пярстамі трыма
мы гутарым з мамай
без мамы: няма

Міг ночы – і ранак.
Дзесь голасна: “Ма-а!..”
Выходжу на ганак:
нікога няма.

Хоць зелена,  весне,
на сэрцы зіма.
Так, мама ўваскрэсла –
і ўсё-ткі няма…

* * *

Удаў гадоў нікім не папярхнецца;
падвольны непазбежнаму суду,
з нас кожны думае: “І я ўвайду
аднойчы ў спрат, што вечнасцю завецца”.

І горка-горка сэрца ўстрапянецца
і змусіць верыць: “Зменшу тым бяду,
што на ахвярнік волі пакладу
непадуладнае нябыту сэрца...”

Чакаць і недарэчліва, і смешна,
што будзе сытай некалі бязмежнасць,
што ў прорву спыніцца людзей сыход.

Ды ёсць жа воля! Мне не надзівіцца,
як цэлы край, як добры мой народ
да ўдава сам наровіць не спазніцца...

## І ЗНОЎ ПРА “ТЭАТР”

— Дае жыццё за раз дзесяткі роляў:
ты вуж і птах,
мізэрнасць ты і лёс…
— Дык што, памкненні марныя?
— Ну вось:
дае жыццё за раз дзесяткі роляў.
— А роля непахісніка ці ёсць?
— Напэўна, ёсць –
згуляць ніхто не здолеў:
дае жыццё за раз дзесяткі роляў.
Ты вуж…
— І птах!
— Мізэрнасць ты…
— І лёс!

**СНЕННЕ**

Хваляванне ветру, вербаў, ракі,
на рацэ хваляванне ветразя.
Чыя хусцінка чапляецца, не пускае яго?
Чые постаці там на далёкім беразе?
Ім на гэты бок не пераплыць,
мне пераплыць на той…
Аднак жа адкуль узнялася чаіца?
Выкрыквае маё даўкае прозвішча
і скідвае мне нерухомую рыбіну,
а я чую ў крыку і ў знаку чытаю:
не сцурайся спаткання з выраем,
свайго часу – не апярэдзь.
Зноў перакімнулася цераз раку:
чыёю душою – натруджанай матчынай
ці дачкі-немаўляці, якая
навучылася мове людской і птушынай,
хадзе і лёту – не тут?..
Яшчэ воля мая – ува мне,
яшчэ пастаю на беразе гэтым.
Мо нават стану пад ветразь ссамотнены
і паплыву паміж берагамі.
Наўсцяж ракі. І не ў сненні…

## ЗАБЫТЫ ВУЛЕЙ

Міколу Папеку

Скочваецца лета спелымі яблыкамі
па даху вулля, такога ж поўнага,
бы яблыкі, бы зямля гэтым летам,-
і цёплая ў меру, і ў меру вільготная.
Соты акругліліся, набухлі мёдам,
вось-вось рамкі свае разамкнуць,
вось-вось дашак, бы вечка, сарвуць
і расцякуцца залацістым цестам.

Мёду ўсё больш; ратунку ўсё менш для пчолаў,
народжаных не спыняцца ў працы,
падахвочаных ненаежным чалавекам.
Забыты вулей чакае яго, непамятлівага,
рызыкуе лопнуць распёртаю дзежкай…

І спаўзаюцца трутні, наталяюцца мёдам,
кладуцца ў пасцелі свае мядовыя
і чухаюць лапкамі поўныя чэравы,
каб зноў спахапіцца ды ўзяцца за ежу.
Не менее мёду між тым, і няма паратунку:
зацятыя пчолы не могуць спыніцца,
не могуць абярнуцца ў трутняў.

Збіраецца ўрэшце пчалінае веча,
гудзе і гудзе да позняга вечара,
а ўранку ўвесь рой (нават трутняў лянівых)
каралева матка збірае на пошукі
новага, пакуль што не занятага вулля.
Ды няма каму болей ускрыліцца.

Рух ёсць жыццё, нерухомасць – смерць.
Адно каб жа ведаць, а што ёсць за рухам?..
Мо адны толькі пчолы і ведаюць.
Мо толькі яны і стануць анёламі.

* * *

Звіняць і травы ўсе, і дрэвы – Спас,
і неба ўсё – адным празрыстым звонам.
Але... ты раптам ловіш дысананс:
такі прыдаўся час крычаць варонам!

І твой настрой ляціць міжволі ўніз
з-пад купалоў бліскучых, залачоных
да яблыкаў на ручніку, што звіс
крыламі на руках жанчыны ў чорным.

Яшчэ не ўлёгся жоўты жвір як след,
часовы крыж яшчэ дрыжыць ад ветру,
ды ўжо ён раскалоўся, звыклы свет,
і пахіснуў бязвоблачную веру.

Спрабуе звон суняць птушыны грай,
за могілкі шугае, утрапёны,
за луг, за край зямлі... А дзе той край?
Ды там ён, там, адкуль крычаць вароны.

* * *

Шлях канчаецца — бачу мяжу,
дык навошта на ўскрайку ліпею?
Пэўна, дрэва яшчэ пасаджу,
ды яго ўзгадаваць не паспею.

Яшчэ сум па жаночым цяпле
не дае сэрцу вымерзнуць лёдам.
Пэўна, зноўку прыйду да цябе,
але з тым, каб пайсці назаўсёды.

Новых дзён і начэй чараду
прыпасаю на ўсепакаянне.
Пэўна, іншую песную складу,
ды яна рэхам даўняе стане.

Згукаў вечнасці ў ёй не ўлаўлю,
буду збіты няплённасцю з тропу.
Пэўна, свет, якім жыў, знелюблю,
але моцы для бунту не хопіць.

Толькі хопіць сябе асудзіць
за хвіліны адчаю і гневу,
каб ачуцца і ўзяцца садзіць
ад мяне не залежнае дрэва.

**НА РУІНАХ**

Дом на ўскрайку часу, свету…
Скрыпнулі няшумна
сходкі, а на іх – ні следу,
толькі пыл. Ды сум наш.

Замяшанне ветру. Вусціш.
Глуха. Нежыццёва.
І не цепліцца на вуснах
Слова. Ні  паўслова…

З кожнай хвіляю знікомы
дом…Яго – ці памяць? –
крэсліць крывізна расколін,
мружыць лісцяў замець.

Доўгі -  згадваеш? – па сходках
шлях твой быў уночы
і такой была кароткай
ноч…Нямыя вочы.

Гэтак холадна зірнула
ў іх, дыхнуўшы стомай,
утравелая мінуласць
з-пад руінаў дома.

* * *

Было ўжо… Месяц без прытулку,
і зорка сіняя між хмар,
і ў сцішаным старым завулку
святлом пазвоньвае ліхтар.
Святлом і лісцем; пазалотай
яго спадае ў змрок, нябыт…
І сведчыць даўняя самота,
чым непаўторны краявід.
Яму да болю не хапае,
каб гэтым лісцем, як тады,
ты, недаступная, ступала
і пакідала назаўжды
мяне, і месяц без прытулку,
і зорку сінюю між хмар,
і ў сцішаным старым завулку
няяркай звонкасці ліхтар.

## ПРОСТАЯ АСТРАЛОГІЯ

Шляхам Птушыным да Мілавіцы
спяшаецца Вознік — павек не даедзе.
Бачыш: перакуліліся адзін за адным
Воз Вялікі, а воддаль — Малы?..

Гэта і ўсё, што я здолеў сказаць
у думках табе ў тую ноч,
калі дзесьці далёка і ты
самотна ўзіралася ў зорнае неба.

## ДЗВЕ ЗАРЫ

Апошняе каханне,
як і першае,
лятункамі прыходзіць, снамі, вершамі.
Світальная зара
ці вечаровая –
аднолькава абедзве зачароўваюць,
абедзве не спяшаюцца, не позняцца…
Каханні
паміраннем  толькі розняцца.
Становіцца адно
малітвай, згадкамі,
другое – крыўдай, дробязнымі звадкамі.
Світальнае – над стратамі, над бедамі,
змяркальнае
знікае ў чорнай бездані.

## СПРОБА ЗАПОЗНЕНАГА ЛІСТА

Хай не ліст, дык каб паўліста,
і каб не заплакаць…
О, які ж я чуллівы стаў,
рыхтык мякаць.

У акне слата і ў душы,
там і там бязлюдна.
Я маўклівасцю адграшыў
сябелюбна.

Які ж трэба быў груз віны
для разгадкі простай:
боль ад аркушнай белізны –
кошт за ростань.

Ліст бясслоўны – як першы крок
з-пад свайго ж дыктату;
бачу старасць, і блізкі змрок
ясніць страту.

Дык з нуля? Але дзе той нуль:
дзе край-свет маячыць?..
Напішу табе ліст адтуль,
там не плачуць.

## МУДРАСЦІ ВОДАР

А.С.

На вокладку кнігі – апошняй, мажліва... –
свой здымак з юнацтва захоча паэтка.
Угледзіцца пільна і скажа тужліва:
“О фотагербарый, без водару кветка!”

Яго адкладзе, ашчаджаючы сэрца,
на іншыя запыніцца – сталага году –
і ціха ды вольна сабе пасміхнецца,
адчуўшы ў партрэце тым мудрасці водар.

## З УСЯНОЧНАЕ

Купкай, чародкай, гуртом
ідуць прасветленыя, балазе
высока-высока — працягам малітвы —
нарадзіўся гэтаю ноччу снег.
Бязважкі, амаль што самое святло,
ён кладзецца на шапкі, на хусткі,
на вейкі — яднаецца з промнямі позіркаў
і ўвачавідкі робіць старых маладымі,
а хлопцаў, дзяўчат — пасталелымі.
Яны ціха ідуць; нават юная самая —
з гарэзлівымі кудзеркамі валасоў
і стрыманымі смяшынкамі —
моўчкі туліць да маленькіх грудзей,
да цнатлівага вабнага твару
пульхны і лёгкі снегу камяк,
нібы спавіванага сына...
Ідуць пада мною, пад адталым акном
купкай, чародкай, гуртом
і нясуць падсінены раніцай снег —
блізкае мне, але недасяжнае неба.

* * *

Зорка з даўнасці… Хто ты: вітанне
ці прароцтва? Дакор або ветласць?
Ці ты ярка-нямое пытанне
вочы ў вочы: чым спраўдзіцца вечнасць?

Зноў і зноў  неспатольную фразу
паўтараць -  і не будзе залішне,
каб ісці па прыступках адказу,
які мае адзін Усявышні.

Ці дайду? Ці за крайняй прыступкай
шлях абернецца  вынікам марным:
там – нічога , нат зоркі над пусткай,
зоркі з даўняе веры і мары?..

* * *

Дзень так пакорліва сыходзіць
у спрат, бы хмарная турма
цяпер навек, бы і ў прыродзе
ад сёння светлыні няма.
Так і жыццёвым адвячоркам,
які з прыродай заадно,
чырвонае  разбавіш чорным
застылае на дне віно…
Ды ўночы ветру бунт пачнецца,
і дождж успеніцца ў двары,
і змрок  стакроць перажагнецца
маланкай – водбліскам зары, -
тады насупраць яркіх вокнаў
адчуеш існае глыбей:
ёсць і цяпер святлынь навокал,
     ва ўсім – апроч, на жаль, цябе.

## НЯВЕДАННЕ

У маленстве
не ведаем, што жывем.
У юнацтве
не ведаем, што нявечныя.
У сталасці
не ведаем, ці жыць варта.
У старасці
не ведаем, ці паўторымся.
Не ведаем.
Не ве – да – ем …

## ІСЦІНА

Як духу ўзлёт не мае столі,
так духу ўпад не мае дна.
Хто зведаў ісціну спаўна,
калі ні дна няма, ні столі?..
Што ж ісціна? Мо ў тым яна,
што маем выбар – выбар волі:
ці ўзлёт, які не мае столі,
ці ўпад, які не мае дна!

* * *

Скончыш рупіцца, на ганку сядзеш:
дым — на бронхі, на нагу — нагу.
Зноў абжыты дом, і чыста ў садзе,
і сабака зноў на ланцугу.

Што за гэтым домам — неістотна,
душы продкаў тут, іх цень ты сам.
Ты чакаеш: восень і самота
падахвоцяць згадваць і пісаць.

Восень позняя, ды не скупая:
тлустая ралля, густая сінь,
і стае самоты… Не хапае
бацькі, маці… Не хапае ўсіх!

Стомаю забудзешся — не лечыць,
воблака, бы звон, кранеш — маўчыць.
І ўвярэдзіць страхам не малечым
надыход бязлюднае ночы.

Спадзяваўся ж: тут і зазімуеш,
спадкаемец, гаспадар і зух.
Але тыдзень, два — і засумуеш,
і — хоць да сабакі на ланцуг.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІН

Снежань.
Стрэлкі – нажніцы
рэжуць і рэжуць на стужкі
нябачную
тканіну часу.
Але — уяўляю:
белую–белую,
як палосачкі лёгкага снегу,
што таксама знікаюць —
растаюць у лужынах.
Снегу не стане,
дня народзін не стане,
не стане мяне —
а стрэлкі-нажніцы
будуць.

* * *

Ступаецца асцярожна:
плюскоча пад снегам вада.
Снег снегам: растане. А вось жа,
апошняга снегу шкада.

Дажджом паліваны,  грамнічны
і плаўлены сонцам не раз
змушае быць меланхалічным,
настрой  непрадвесні прыпас.

Мне блізкае ўсё, што сыходзіць.
Я сам адчуваю мяжу.
Блажэю. Бліжэю прыродзе.
А людзям?.. Як знаць. Не скажу.

**ФРАГМЕНТЫ**

1

Вярнуўся ў кут продкаў
шукаць сваё сэрца –
сталымі гадамі жыву без яго
ці з сэрцам,
перасаджаным ад каменя.

Пад маімі нагамі
камянелі травінкі на чорным асфальце;
аб мяне разбіваліся птушкі,
пранізаныя сцюжаю
невядома калі ахалолых вачэй.

Я праходзіў скрозь абалонкі людскія
і не пытаўся імёнаў,
як ніхто і ў мяне не пытаўся,
адно тупа і глуха грукаліся
камень аб камень –
сэрца аб сэрца...

Граў я калісьці на ветры –
струны парваліся,
і я майстраваў свісцёлкі гліняныя
з выявамі абезгалоўленых пеўнікаў;
хлапчук, мой нашчадак, і той
не выдзьме з іх ані гуку.

Гэтулькі часу – як,
як я хадзіў адранцвелы?
Як піў ваду
стуленымі сухімі вуснамі
і як прамаўляў імі слова?

Чым я жыў,
чым жывіў адсутнае сэрца
ці сэрца,
перасаджанае ад каменя?..

2

Мне няцяжка шукаць:
пацяжэлыя яблыні
галіны кладуць мне на плечы,
і росы (буйныя, нібы антонаўкі)
скочваюцца па мне –
сцюдзёняць да невыноснасці,
абпальваюць да горычы.

І сонца прыходзіць з-за блізкага лесу,
ключы аддае прамяністыя
ад хаты з рукамі самкнёнымі,
ад клуні, дзе ўгнездзілася цеплыня
на кожнай жардзінцы,
на кожнай сянінцы;
дзе ўночы жывуць толькі ластаўкі,
а ўдзень – кажаны...

Мне няцяжка шукаць:
дзве касы – мая паржавелая
і вострасрэбная бацькава –
самі скасілі быллё ў агародзе,
каб убачыць я здолеў сляды,
якія пасеяла маці на градках апошніх,
і на дзічцы – ката здзічэлага,
і сабаку, што сам
засіліўся на ланцугу на плоце...

Мне няцяжка шукаць:
расхрыстаны весніцы,
нябёсы расхрыстаны –
і расхрыстаны грудзі
для сэрца.

**З нізкі “Эскізы”**

* * *

На белым свеце аркуша
маё Я
зноў жыве пустэльна

* * *

З-пад сініх яе акуляраў
стралялі амуры
маланкамі

* * *

Яшчэ ў чэраве маці
вернік пачуў
першы малебен у храме

* * *

Апыліць бы
душы людскія
пылком
кветкі-папараці…

* * *

Узамен кашмараў
сніцца пачала мне ты

* * *

Трохперсце
схіляюць да чыстага аркуша
не толькі праваслаўныя

* * *

Дзіўна пазіраць у люстэрка
адкуль цябе аднойчы вынялі

**ШЛЯХ**

Змушала ісці дарога,
уголас спяваць – самота,
удаль узірацца – яснасць,
павекі прымружваць – слота.

Змушаў спатыкацца камень,
з зямлі падымацца – посах,
збіраць каласы – смак хлеба,
а пот – умывацца ў росах.

Змушалі сляпыя вёрсты
накручваць намітку страху:
яшчэ ўсё не бачыш мэты,
яшчэ ўсё палова шляху.

Знікаў у яго бязмежжы
з апошняю думкай дзіўнай:
мусовы свой шлях прайшоў бы
на месцы, нібы гадзіннік.

Аднак жа цябе абверглі,
як леглі табе навекі
на века – пыл роднай глебы,
валошкі пылок – на вейкі.

## З македонскай

***Блажа Конескі***

### Дзіцця, заснулае ля возера

Ты спіш, малеча,
а возера задумалася –
возера долю тваю да краплінкі прадумвае.
Ты спіш, а яно
паволі ў душу тваю заплывае,
нібы ў затоку, на дне якой
белыя каменьчыкі як на далоні.
Ты спіш,
ды і ў сне ты ўбіраеш возера,
быццам ціша вады далёкі шум хваляў,
што аднойчы народзяцца,
і заплачуць, і цябе панясуць.

Ты спі, дзіця спі –
пакуль возера стварае душу тваю
і думае думу пра тваё абуджэнне.

### Супакаенне

І збылося, і прычакалася
ўсё, што доляй наканавана.
Мрою-думаю абыякава,
толькі згадваю ўсхвалявана.

Чыста ўсё на краёчку складзена
і з хвалой, і з мальбой да Бога.
Вы паплачце па іншых, я
сам аплакаў сябе самога.

*Аца Шопаў*

**У цішыню**

Калі носіш нешта невымоўнае,
тое, што пячэ цябе і мучыць,
закапай у цішыню глыбокую,
толькі цішыня яго агучыць.

Паляванне на возеры

Птушка стралою імгненнаю
ўпала прыцэлена, змерана.
Роўнядзь азёрная пенаю
плюснула слёзна ля берага.

Крылы акрыліся пырскамі,
міг – і ахвяраю выбранай
затрапятала, заблiскала
ў дзюбе бяссільная рыбіна.

Сонца схмурнела нявеtлае,
слова сказаць мы не здолелі.
Нешта, ледзь-ледзь зразуметае,
легла між намі расколінай.

*Ефцім Клетнікаў*

**Ціхая размова з бацькам**

Хмары апусціліся
на дно нашага сэрца,
калі я спытаўся ў цябе,
ці досыць алею ў агніцы
для маці маёй.

“Досыць, — сказаў ты, —
ды вецер мацнее,
і нельга ўжо дакрануцца
да тонкага  полымя кноту”.
/ А сам сабе думаў:
мігціць душа яе недзе,
нібы ясачка ў змроку /.

Я зноўку спытаўся,
ці досыць алею ў агніцы,
і дадаў: “Нежывыя
на ўзгорку ляжаць галавою на поўнач,
і вецер адусюль іх даймае”.

Ты адказаў: “Магіла магілай,
на гале яна ці ў зацішку”.
/А ўпотай нашэптваў:
магілы напоўнены стынню,
і мёртвыя перасяліліся
ў куток нейкі сонечны,
ім толькі вядомы/.

Я ўбачыў тады, як уздых твой
/ балючы-балючы і цяжкі /
скрануў нашу хату да сіняе Зоркі,
чыё ззянне здаўна
напаўняла падмурак.

## З нямецкай

### *Фрыдрых Шылер*

### Надзея

У думках і словах,  у сненнях людскіх
Спадзеву на лепшае многа.
Да мэты шчаслівай, да дзён залатых
Ляціць іх лятунак-дарога.
То старыцца свет, то ён зноў малады,
Але чалавек спадзяецца заўжды.

Надзея вядзе ад пачатку шляхоў, —
З падлеткамі рада вітацца,
Таемнасцю поўніць яна юнакоў
І не памірае са старцам;
Няхай да магілы ўсяго толькі крок,
Ды цепліць надзея зняможаны зрок.

Не, гэта не сімвал, пусты і нямы,
Што мозг спараджае збалелы.
У сэрцы не моўкне: для лепшага мы
Прыходзім у свет гэты белы.
І як ні шчыміць у ім жалю струна,
Не чуе душа: спадзяецца яна.

**З рускай**

***Арсеній Таркоўскі***

**Першыя спатканні**

Спатканняў нашых кожнае імгненне
Мы святкавалі, як богаз'яўленне,
Адны на цэлым свецце. Ты была
Смялейшай і лягчэйшай ад крыла
Птушынага; бы галавакружэнне,
Па лесвіцы злятала і вяла
Скрозь бэз вільготны ў сад свой без наймення
На тым баку люстэркавага шкла.

Настала ноч, і ўспыхнула высока
Няведамая зорка, нібы знак
Падаравання, і ў празрыстым змроку
Хілілася павольна галізна.
"Будзь блаславёнай!" – словы Запавету
Шаптаў і ведаў, што бязбожна  гэта –
Хацець, каб вечнасцю маёй была:
Цябе крануць сінечаю сусвету
Гусцісты бэз  цягнуўся са стала,
І прамяніліся твае павекі
Ад дотыку світальнага святла.

А ў крышталі пагойдваліся рэкі,
Там з гор паднебных падала бруя,
І ты трымала сферу на далоні
Крыштальную, і спала ты на троне,
І – Божа існы! – ты была мая.
Ты прабудзілася і пераўтварыла
Штодзённы слоўнік мой і першы раз
Па горла мову паўнагучнай сілай
Напоўніла, — і слова ты адкрыла
Свой новы сэнс і азначала: князь.

На свеце ўсё займела сваю вартасць,
Да простых рэчаў – кубак, таз, — тады
Стаяла паміж намі, як на варце,

Крамянасць непахіснае вады.

Нас павяло богведама куды.
Мы адмыкалі цуда-гарады,
Якіх ніколі не было на карце,
Сама нам мята клалася пад ногі,
І птушкі нам авейвалі дарогі,
І рыбы браліся ўверх па рацэ,
І змест быцця нябёсы развіналі…

Калі па следзе лёс ішоў за намі,
Нібы шаленец з брытваю ў руцэ.

## *Юрый Адарчанка*

* * *

Зязюля ў ходзіках – часцей,
Чым у лясах яловых.
У лесе квакшы водзяць рэй,
Бы ў слоікі іх ловяць.
Яны пяюць пра санцавей –
Ці верце, ці не верце…
Жыць у гадзінніку страшней
І век спяваць аб смерці.

* * *

Не кажа маятнік пра час,
А лічбавік пад цёмнай хусткай.
Не ведаю, што хутка, хутка
Я нерашучы свой адказ
За шмат гадоў дам першы раз.
Цік-так, цік-так… Так гэта праўна,
Так неўпрыцям, дзень ёсць ці згас,
Што верагодна, нават праўда,
Цік-так і будзе мой адказ…
Цяпер, мо сёння, хутка-хутка,
Калі нікчэмны мой абраз
Анёл завесіць чорнай хусткай.

*Мікалай Рыленкаў*

**Надпіс на старадаўняй кнізе**

Дужэй ад дзідаў, непахісней ад муроў,
Што сузіраюць дол у гордым узвышэнні,
Моц слова, дзе трымціць жывы агонь вякоў,
Каб яву ўспрамяніць і спапяліць сумненні.

Нямала ў плыні дзён пабачыў я віроў.
У шумавінні жарсцяў чэзлі змен імгненні.
Я ведаў веліч і палон уладароў.
І я кажу цяпер: не ўкленчвай  ва ўтрапенні!

Калі суддзёй і князем панукае міг –
Іх слава кволая, бы дудачка з бяросты.
Зноў справы ўзважаць іх, шляхоў палічаць вёрсты,
Ледзь-ледзь растане дым кадзільняў залатых.
Спытаеш ты сябе, як пах пачуеш тленны:
— За што і перад кім я ўкленчваў ва ўтрапенні?

## З украінскай

***Васыль ГЭЙ***

* * *

Быццам пёрка на ветры, натхненне
Я лаўлю ў існаванні зямным,
І мне свет за найменнем найменне
Адкрывае ў бязмежжы сваім.

Калі ж кіне ваўчыную зграю
Ноч бязвер’я – сябе засланю
Я запаленым словам, я знаю:
Звер і сёння баіцца агню.

## ***Ёсып Струцюк***

* * *

Хто скажа мне, што я нягожы,
як мне ўсё дадзена спаўна?
Схачу – і космас патрывожу,
зраблю гару з марскога дна.
З двух роўных скроены пачаткаў,
я чыннік ліха і дабра –
і толькі ў макавым зярнятку
не ў змозе расшчапіць ядра.
Здавалася б, раз-раз – і годзе,
і ў стэп яго, дзе зерная брак.
Аднак той мак у рост не пойдзе,
ні парастка не дасць той мак.

Хто скажа мне, што я нягожы,
як узышоў у абсалют?
Схачу — і зоркі перамножу
не пераможцавы салют,
а вынік падзялю на радасць,
на дзве надрыўныя струны.
Вас прышласцю не абакраду,
нямотны я і галасны.
Я і Гаморы і Садому
засведчыў моц мае хады,
ды не ўдаецца мне самому
прыдумаць ні глытка вады…

***Віктар ЛАЗАРУК***

**КАСМІЧНАЕ**

Над сном заплаканы лятак
Тараніць выстылы абсяг пустэчы…
Святла не трэба. Бачнай й так.
Хай нервы адпачнуць і рэчы.

Падключаны да ночы тэлефон.
Гудзе трывожна ў свеце зумер.
Чаго ж ты, сэрца: будзь разумней.
Суровы космасу закон.

Разбуцца. Вольны. Сам, адзін я.
А крылы? Вешай і сушы.
Ад холаду здрыгнуўся халадзільнік.
Пра што ён мроіць у цішы?

Наш час? Дакладнасць у пружыне,
У гірах вечнасці: цік-так.
Прашыў нам сэрца задыяк,
Прыпарушыў жа марсіянскі іней.

Над сном заплаканы лятак…
Цік-так… заплаканы… цік-так…

***Іван ЧАРНЕЦКІ***

* * *

Ці павуцінкі бабінага лета,
ці першых прымаразкаў стылыя мазкі
на скроні леглі, і палітра гэта –
у жывапісца першае рукі,
якім ёсць час. А ён жа й летапісец:
спісаў дзесяцігоддзямі чало.
А каб нягорка іншы раз было,
палыннай гаркаты не раз напіўся.
Ёсць толькі ў гаркаце і сэнс, і солад,
без гаркаты да праўды не дайсці…
Як ля цяпельца клічуць нас у кола,
дык нешта яшчэ значым у жыцці.
Я адгукнуся, годна ў кола стану,
і ўспыхне нада мной мая зара.
А ля агню ўсе прыцемкі растануць
і прымаразкі ў полымі згараць.

***Раман РАМАНЮК***

* * *

Сонца між соснамі ў далягляд
Ушчамілася куляй двубою:
З пэўнасцю той, што й вякі назад,
З годнасцю тою.

Вечар у росах падлессе купае.
Госцем ідзе да вярбіны туман.
Дуб сярод поля стаіць непрыкаяны,
Дум атаман.

Сосны ў бянтэзе з уласнае святасці
Дзесь аж растуць у Іерусалім.
Як жа ўсім гэтым я – Божа! – прасякнуты,
Як жа малы перад гэтым усім.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015
© PDF: Камунікат.org, 2015

**ЗМЕСТ**

“Сваю – даснаваў я да спадчыннай долі…”
“Што трэба вяртанцу? Палоска…”
“Травою быў, а нехта ў небе сінім…”
Недажын
Спадчынны сад
Яблыня беларуская
Спатканне з вандроўнікамі
“За паўveку ўжо далёка чалавеку…”
Балада берага
“Чалавек дасюль яшчэ ў зародку…”
Несупыннасць
Карабель
“Чым менш застаецца да роднага дому…”
Зялёны конік маленства
Нацыянальная бібліятэка
З кутка Нямеччыны
Усходнія суседзі
Не там
Насалода ад паляваннння
Сакрэт пастаянства
Сухмень
Асацыяцыя
“Свісне рак – і ўсё. І ўсё збудзецца!..”
Апатыя
Ніва
“Сеяць мне сёння зярняты на камені…”
Памкненне
Човен
Глыбіня
Сосны на разбураных могліцах
Раўнавага
Краявід
Сад
“Самота – на вяршыні дзён самота…”
Бяздомнік
Пілiпаўская ноч
Памяць
Вандроўнік
Саракавіны

“Удаў гадоў нікім не папярхнецца…”
І зноў пра “тэатр”
Сненне
Забыты вулей
“Звіняць і травы ўсе, і дрэвы – Спас…”
“Шлях канчаецца, бачу мяжу…”
На руінах
“Было ўжо… Месяц без прытулку…”
Простая астралогія
Дзве зары
Спроба запозненага ліста
Мудрасці водар
З усяночнае
“Зорка з даўнасці… Хто ты: вітанне?..”
“Дзень так пакорліва сыходзіць…”
Няведанне
Ісціна
“Скончыш рупіцца, на ганку сядзеш…”
Дзень народзін
“Ступаецца асцярожна…”
Фрагменты
З нізкі “Эскізы”
Шлях
З македонскай: Б.Конескі, А.Шопаў, Е.Клетнікаў
З нямецкай: Ф.Шылер
З рускай: А.Таркоўскі, Ю.Адарчанка, М.Рыленкаў
З украінскай: В.Гэй, Ё.Струцюк, В.Лазарук, І.Чарнецкі, Р.Раманюк